*Не пакідайце ж мовы нашай беларускай, каб не ўмёрлі!*
*Францішак БАГУШЭВІЧ*




# НАША СЛОВА

Штотыднёвая газета (Выходзіць з сакавіка 1990 г.) № 11 (275) 13 сакавіка 1996 г. Кошт — 1000 рублёў

ПАСЛЯ ТРОХ УЖО ПОЗНА. Стар. 5.

ЗГАДВАЮЧЫ КАНДРАТА КРАПІВУ. Стар. 7.

## ПОСТУП ТЫДНЯ



❍ **ПРЭЗІДЭНТ РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ АЛЯКСАНДР ЛУКАШЭНКА НАПРЫКАНЦЫ ЛЮТАГА З АФІЦЫЙНЫМ ВІЗІТАМ НАВЕДАЎ РАСІЙСКУЮ ФЕДЭРАЦЫЮ.** Кіраўнікі дзвюх дзяржаў падпісалі шэраг сумесных беларуска-расійскіх дакументаў. Наконт гэтай падзеі БЕЛТА распаўсюдзіла інфармацыю, у якой, у прыватнасці, гаворыцца: «На думку абодвух прэзідэнтаў, само жыццё штурхае на інтэграцыю дзвюх дзяржаў, на стварэнне моцнага эканамічнага саюза. Зрэшты, як яны заявілі, гэта будзе не той саюз, аб якім марылі камуністы. Гэты саюз будзе вызначацца цеснымі эканамічнымі, палітычнымі, духоўнымі, культурнымі сувязямі, але пры поўнай дзяржаўнай самастойнасці. «Больш таго, — сказаў Барыс Ельцын уходзе перагавораў, — мы наогул не закраналі пытанняў, што датычацца незалежнасці». Незалежнасці Расіі?

❍ ***ПАД СТАРШЫНСТВАМ НАМЕСНІКА ПРЭМ'ЕР-МІНІСТРА РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ УЛАДЗІМІРА РУСАКЕВІЧА АДБЫЛОСЯ*** *чарговае пасяджэнне дзяржаўнай камісіі па падрыхтоўцы новых падручнікаў у гуманітарна-грамадазнаўчай сферы. На пасяджэнні разглядаліся пытанні падрыхтоўкі да выдання шэрагу падручнікаў і вучэбных дапаможнікаў па гісторыі, геаграфіі, літаратуры і паліталогіі. Пасля абмеркавання камісія рэкамендавала да выдання два падручнікі па геаграфіі, чатыры па літаратуры і адзін вучэбны дапаможнік па гісторыі.*

❍ **У ПАЛАЦЫ КУЛЬТУРЫ МАЗа АДБЫЛАСЯ СУСТРЭЧА,** наладжаная Заводскім райвыканкамам Менска, арганізацыяй ТБМ імя Ф.Скарыны Заводскага раёна, а таксама Дзятлаўскім райвыканкамам Гродзенскай вобласці. Разам сабраліся ўраджэнцы Дзятлаўшчыны. Сярод іх: Мечыслаў Грыб, Вячаслаў Адамчык, Эдуард Груда, Станіслаў Грыб.

❍ ***НА ПАЧАТКУ САКАВІКА Ў «ЗВЯЗДЗЕ» БЫЎ ЗМЕШЧАНЫ АРТЫКУЛ НАРОДНАГА ПІСЬМЕННІКА БЕЛАРУСІ ІВАНА ШАМЯКІНА,*** *у якім, ён, у прыватнасці, гаворыць: «Перш-наперш, я так лічу, павінна быць забяспечана роўнасць беларускай і рускай моў і дэ-юрэ і дэ-факта. Пра гэта я пісаў у адкрытых пісьмах Прэзідэнту рэспублікі, якія друкаваліся ў "Звяздзе" ў маі і кастрычніку 1995 года. Я прапаноўваў так званы "бельгійскі варыянт". У нашых умовах — гэта закон, які абавязваў бы кожнага, хто хоча заняць дзяржаўную пасаду, ад самай нізкай да самай высокай, абавязкова дасканала ведаць дзве мовы, якія сталі дзяржаўнымі пасля рэферэндуму, — беларускую і рускую». Папярэднія пісьмы Івана Шамякіна да Прэзідэнта засталіся без адказу. Няўжо і на трэці раз ніхто не пачуе слушную прапанову народнага пісьменніка?*

❍ **У БЕЛАРУСКІМ ДАБРАЧЫННЫМ ФОНДЗЕ «ДЗЕЦЯМ ЧАРНОБЫЛЯ»** ідзе падрыхтоўка да III Міжнароднага кангрэса «Свет пасля Чарнобыля». У гэтым форуме прыме ўдзел больш як 480 дэлегатаў з 20 краін свету.

❍ ***У КРАСАВІКУ—МАІ ГЭТАГА ГОДА Ў НАШАЙ КРАІНЕ*** *пачнецца выдача грамадзянам Беларусі пашпартоў з новай дзяржаўнай сімволікай. На сённяшні дзень яшчэ працягваецца выдача пашпартоў з выявай герба «Пагоня». Іх ужо выдадзена каля 100 тысяч.*

## У пікеце каля Дома ўрада — беларуская мова




Фотаздымак Ул.Кармілкіна.

## Грамадзе — 5 гадоў

Некаторыя апаненты, жадаючы пакпіць з Грамады, называюць яе іншым разам клубам беларускай інтэлігенцыі. Беларуская Грамада сапраўды не зусім, відаць, тыповая сацыял-дэмакратычная партыя ў заходнееўрапейскім сэнсе, жорстка скіраваная толькі на дасягненне дзяржаўнай палітычнай улады. Бо адгукаючыся на беларускія гістарычныя ўмовы, Грамада з самага пачатку імкнулася перш-наперш духоўна абудзіць і з'яднаць народ дзеля яго нагада бравыту і годнага людскага нацыянальнага жыцця. З самага пачатку — гэта значыць, яшчэ тады, калі ўвосень 1902 г. група студэнтаў-беларусаў, куды ўваходзілі В.Іваноўскі, А.Пашкевічанка (паэтэса Цётка), І.Луцкевіч ды іншыя, пачала ствараць беларускую рэвалюцыйную партыю, на базе якой узімку 1902—1903 года ўтварылася Беларуская рэвалюцыйная Грамада. Пазней яна перайменавалася ў Беларускую сацыялістычную Грамаду і ў першай жа праграме выказалася за стварэнне незалежнай Беларускай дэмакратычнай рэспублікі. Лідэры БСГ прычыніліся да заснавання выдавецтва «Загляне сонца і ў наша аконца» і першых легальных газет на беларускай мове — «Нашай Долі» і «Нашай Нівы», апошняя з якіх сталася цэнтрам згуртавання і выхавання нацыянальна свядомай інтэлігенцыі і нацыянальна-культурнага адраджэння беларусаў. БСГ стаяла фактычна на чале стварэння Беларускай Народнай Рэспублікі ў сакавіку 1918 года. Без яе ж істотнага ўплыву не была б створана затым і БССР, калі значная частка беларускай грамадскасці паверыла абяцанкам бальшавікоў і Леніна.

Пра ўсё гэта казаў кандыдат гістарычных навук Віталь Скалабан на ўрачыстым сходзе ў Менску, прысвечаным 5-годдзю Беларускай сацыял-дэмакратычнай Грамады, якая, адрадзіўшыся ў пачатку сакавіка 1991 года, адразу ж абвясціла сябе спадкаемніцай першых грамадоўскіх арганізацый.

Цяперашняя БСДГ, адзначалі іншыя выступоўцы, сярод якіх было нямала актыўных сяброў ТБМ, застаецца адной з самых паслядоўных патрыятычных адраджэнскіх сапраўды беларускіх партый. Яна мае трывалы аўтарытэт у народзе, пра што сведчыць і тое, што яе актыўна падтрымліваюць прафсаюзы Беларусі.

**Ул.Ас.**



*Дыяспара і культура*

## «Палац» і ў Клiўлендзе — «Палац»!

Кліўлендскі аддзел Беларуска-амерыканскага задзіночання назваў знакаміты гурт «Палац» лепшым у 1995 годзе.

За поспехі ў развіцці музычнай культуры і за выкананне песні «Пайду я ў новую канюшню» згаданы аддзел узнагародзіў «Палац» прэміяй Сяргея Карніловіча. На жаль, пра матэрыяльны бок узнагароды даведацца не ўдалося.

**Алесь СЕРГІЕВІЧ.**

*У газетах*

## Што ўбілі беларусам у галаву...

«...Беларусам ўбілі ў галаву, што без «старэйшага брата» ён нішто, што разумныя, працавітыя, таленавітыя людзі жывуць дзесьці там, за мяжой, а тут толькі шэра-п'яная маса насельніцтва без роду і племені. Яны ўжо не могуць заўважыць сапраўдныя таленты вакол сябе. Нашы рок-гурты займаюць першыя і другія месцы на конкурсах у Расіі і Англіі, а тут пра іх існаванне і не ведаюць. Не ведаюць толькі таму, што яны беларускія. А яны, не прабіўшы сцяны антынацыянальнай свядомасці, у рэшце рэшт з'язджаюць туды, дзе цэняць не толькі свае таленты, але і чужыя. У Гомелі жыве Сяргей Кацелявец. Гэты зусім яшчэ малады чалавек на адыходах вытворчасці, якіх поўна на звалках, змог пабудавацьсабе дом у некалькі паверхаў. Гэтага хлопца ведае ўся царкоўная іерархія Смаленска і Пскова. Ён піша іконы, рабляе рознае царкоўнае начынне па ўзноўленых ім старых і вынайдзеных тэхналогіях. Яго запрашаюць у Расію для рэстаўрацыі і рамонту манастыроў і цэркваў. Прычым тое, што мясцовыя майстры робяць за месяцы і за вялікія грошы, ён з памочнікам робіць за тыдзень і амаль задарма. Яго ўсімі сіламі цягнуць у Расію, прапануючы ўзамен таленту багацці, а ён зноў і зноў вяртаецца на Беларусь, дзе пра яго нічога не ведаюць...

*(«Народная воля», № 42, 1996 г.)*

Свіслацкі гурток ТБШ, завешаны Ваўкавыскім Старастай «за бяздзейнасць» (гл. «Хроніку»).

*(Матэрыял чытайце на с. 4.)*

*Рэха*

## Пашкадаваў камуніст беларусаў...

Прачытаў у «Нашым слове» № 8 за г.г. інтэрв'ю дэпутата Валерыя Шчукіна і задумаўся вось над чым. Хутчэй за ўсё асабіста, у побытавым разуменні, Валерый Шчукін добрапрыстойны чалавек: не парушае законаў, ідучы на пасяджэнні Вярхоўнага Савета, дае міліцыну жабракам у падземным пераходзе, несвядома рэагуе на розныя народныя забабоны. А мо нават дасягнуў найвышэйшай ступені — стаў «праваслаўным атэістам»?

Г.зн. сцвярджае, што Бога няма, але наш усё роўна лепшы за каталіцкага. Я да гэтага схіляюся, і добра было б, калі б персанальныя якасці Валерыя Шчукіна былі б толькі ягонымі персанальнымі якасцямі.

Але таварыш Шчукін належыць да часткі грамадства (на лаціне «партыя»), якая трошкі зацыклілася на ёй жа выдуманай ідэі фікс — аб роўнасці ў жабрацтве. Прычым не проста на ідэі роўнасці, а на ідэі кіраванай роўнасці, на нівеліроўцы. Як інакш, чым не цынізмам, можна назваць шалёную кампанію камуністычна-імперскіх сілаў па «выраўноўванню» статуса расійскае мовы з беларускай, калі расійская і так яўна панавала ў Беларусі? Ці ж не цынізм, што партыя Шчукіна і сам ён арганізоўвалі «народны гнеў» супраць беларускай мовы, а сёння ён раптам пачаў змагацца за тое, каб нейк не ўтапіць яе зусім? Ці не нагадвае гэта славутае «мы вас будзем трошкі вешаць»?

Шчукін шчыра прызнаецца, што не лічыць беларусаў за адметны народ. Праўда, мову ён не называе дыялектам, але тое, што ёй канавана сканаць, відаць, упэўнены. Проста ён хоча падоўжыць яе агоню? Каб радыкальна ўмяшацца і ўратаваць яе — гэтага камуністы прынцыпова рабіць не будуць. Рабочая ж мова камуністаў (прынамсі адной з самых страшных іхніх рас-бальшавізму) — вядома якая, расійская. Нашы каты заўсёды гаварылі на чужой нам мове.

Асабіста таварыш Шчукін — не цынік. Цынічная сама сістэма, якой ён заўзята служыць — тая, што цынізм і зло зрабіла побытавай, і таму амаль нябачнай, з'явай. Вось чаму наша грамадства практычна амаль не рэагуе на самы дзікі шал беззаконня і здзеку. Адкуль жа ўзяць эталон прыстойных паводзінаў, калі за гэта ўлада столькі часу бязлітасна карала? А ўлада і па сённяшні дзень напакавана камуністамі, якія толькі божацца, што яны нейкія «новыя».

Пакуль гэта не перaадолена грамадствам, ніякіх шанцаў на спакой, дабрабыт, годнасць беларусам не мецЬ. Камуністычныя алхімікі будуць увесь час алхімічыць з нашым народам.

Два папрокі:

1. Камуніст **Щукин** прынцыпова адмовіўся ад публікацыі ягонага інтэрв'ю па-беларуску. Чаму тады рэдакцыя прынцыпова не адмовілася яго друкаваць у беларускай газеце?! Нашто такія інтэрв'ю?!

2. Пратэстую супраць ужытку слова «рэспубліка» ў дачыненні да Беларусі як эквівалент «краіна». Яго свядома ўжываюць нашы ворагі, каб прынізіць статус Беларусі.

Зрэшты, вы не адныя ў гэтым.

**Мікола БУСЕЛ.**
в.Дуброва,
Светлагорскі р-н.

## Ад імя «меньшинства» — дзякуем!

Прыемна адзначыць, што нават камуністы пачынаюць дбаць пра нас, «меньшинство». Калі так, вельмі дзякуем. Добра, што пакрысе пачалося ўсведамленне, што «получилось насилие большинства» над намі.

Але, на жаль, гэта пакуль прагрэсіўныя адзінкі, як В.Шчукін («Наша слова», № 8, 19.02.96 г.).

Але, нягледзячы на павагу, не магу згадзіцца з вышэй названай дзеючай асобай. (Якому, між іншым, вельмі да твару беларуская сарочка-вышыванка, мяркуючы па фотаздымку ў газеце «Свобода».) У пытанні, што «понятие белорус весьма условно». Ва ўмовах СССР — магчыма. А ў Рэспубліцы Беларусь? У беларускай дзяржаве? Таму паняцце «беларус» не толькі для «меньшинства» павінна быць другое.

Магчыма, камуністы жадаюць кансерваваць гэта паняцце да часоў «зліцця нацый» і другіх касмапалітычных перайтварэнняў. Магчыма, яны галечай, голадам, прыніжэннем беларускай культуры (у тым ліку і мовы) імкнуцца затрымаць развіццё патрыятычных якасцей нацыянальнай самасвядомасці беларусаў. Але, на мой погляд, — гэта дарэмны клопат. Жыхары Беларусі калі-небудзь усё ж адчуюць сябе беларусамі.

На жаль, у гутарцы не названы галоўныя ініцыятары насілля, калі была выкарыстана грамадзянская непадрыхтаванасць, маласвядомасць большасці жыхароў нацыі краіны дзеля атрымання патрэбных кіраўніцтву вынікаў рэферэндуму. Але кіраўнікі прыходзяць і адыходзяць, а Радзіма застаецца, і ўжо зараз многія думаюць не так, як у траўні 1995 года.

Хачу адзначыць падабенства лёсаў сп. В.Шчукіна і майго. Мае бацькі па нацыянальнасці гэткія ж, як ягоныя. Вучыўся я ў Адэсе — АММУ-3. 27 год быў у кампартыі. Але калі пазнаў праўду, калі супаставіў жыццё «паверханых» дзяржаў Германіі, Японіі з нашым жыццём, менталітэтам, працавітасцю, то зразумеў — тут штосьці не так, як нам убівалі ў галаву.

Я таксама вярнуўся «да сваёй Беларусі» і «прырос да бацькоўскіх сцяжын, да радзімы герояў, паэтаў, заканаў у спеў ручаін...»

Але ў нас ёсць розніца. Бо я, у знак удзячнасці зямлі, на якой узгадаваўся, назваў сябе беларусам.

Звяртаюся да Вас, паважаны сп.Шчукін, а таксама да «товарищей», з якімі Вы «соглашовываете все свои действия». Калі Вы ўсвядомілі, што «получилось насилие большинства над меньшинством», а таксама Вам сапраўды «горько сознавать, что белорусский язык умирает», то патрэбна вельмі мала: зрабіць так, каб выконваўся адпаведны артыкул Канстытуцыі Рэспублікі Беларусь аб дзяржаўнай мове: «Закон аб мовах», каб закон быў законам. «Меньшинство» не такое, дарэчы, малое, каб у Вярхоўным Савеце беларускай мовай карысталіся толькі дэпутаты П.Краўчанка, Г.Карпенка, П.Знавец, С.Шушкевіч ды яшчэ 3—4 чалавекі.

Чамусьці не верыцца, што ў Вярхоўным Савеце сабраліся людзі і Вы, выбачайце, у тым ліку (на Беларусі з 1987 г.), якія не здольныя нармальна авалодаць беларускай мовай. І нагаворвайце ёй пагібель!

На мой погляд, тут палітычны матыў, калі не простая пагарда. Як што не так, выбачайце. Я і мае сябры Вас паважаюць, спадар Валерый Шчукін.

Зычу плёну ў барацьбе за беларускасць. Падарожнага ветру ў ветразях. Тузін футаў пад кілем, як кажуць Вашы сябры-маракі, у рабоце для ўмацавання дзяржаўнасці Беларусі!

**В.БАРБОЛІН,**
**сябра Рады ТБМ.**
г.Берасце.

## Даты і падзеі ў сакавіку

**18 сакавіка** — 75 гадоў з дня падпісання (1921) Рыжскага мірнага дагавора, паводле якога Беларусь была падзелена паміж Расіяй і Польшчай.

**19 сакавіка** — 65 гадоў з дня нараджэння Г.В.Кісялёва, беларускага гісторыка і літаратуразнаўцы.

**21 сакавіка** — Міжнародны дзень барацьбы за ліквідацыю расавай дыскрымінацыі.

**22 сакавіка** — 210 гадоў з дня нараджэння Г.Ляlевеля (1786—1861), польскага гісторыка і грамадскага дзеяча, удзельніка паўстання 1830—1831 гг., аўтара дэвіза «За нашу і вашу свабоду!»
85 гадоў з дня нараджэння А.А.Зарыцкага (1911—1987), беларускага паэта.

**24 сакавіка** — 100 гадоў з дня нараджэння В.Мурашкі (В.Г.Карчэўскай) (1896— 1981), беларускай паэтэсы і дзяячкі нацыянальнага адраджэння.

**26 сакавіка** — 60 гадоў з дня нараджэння А.П.Кудраўца, беларускага паэта.

**27 сакавіка** — Міжнародны дзень тэатра.
145 гадоў з дня нараджэння А.П.Сапунова (1851—1924), беларускага гісторыка, археолага і краязнаўцы.

**28 сакавіка** — спаўняецца 455 гадоў Іпацію Пацею (Адаму Львовічу) (1541— 1631), пісьменніку-палемісту, палітычнаму і царкоўнаму дзеячу Вялікага Княства Літоўскага.

*Падрабязнасці*

## «Еўразія» — дзяржаўныя структуры — ТБМ?..

З ранейшых публікацый «Нашага слова» нашы чытачы ўжо ведаюць пра фонд «Еўразія» і яго праграмы. Сёлета да адной з іх — праграмы развіцця сродкаў электроннай сувязі — падключыўся і Таварыства беларускай мовы. Таму напачатку — аб тым, што такое электронная сувязь.

Мы жывём у час, калі кампутар даўно ўжо перастаў быць машынай для рахавання і ператварыўся ў прыладу для збору, апрацоўкі і захавання інфармацыі. Ужо даўно распрацаваныя спосабы сувязі паміж паасобнымі кампутарамі і абмену паміж імі інфармацыяй. Злучаныя між сабой, кампутары ўтвараюць так званую сетку, якая можа быць невялікай, лакальнай, напрыклад, у межах адной арганізацыі ці ўстановы, альбо ахопліваць увесь свет, даючы магчымасць аператарам кампутараў, якія знаходзяцца ў розных, нават аддаленых на дзесяткі тысяч кіламетраў, краінах, абменьвацца інфармацыяй, запісанай у іхніх машынах.

Найбуйнейшай у свеце кампутарнай сеткай — да таго ж, некамерцыйнай — з'яўляецца «Інтэрнэт», створаная 25 гадоў таму. Яна забяспечвае сваім удзельнікам амаль неабмежаваныя магчымасці атрымання любой інфармацыі з той, якую кожны ўдзельнік «Інтэрнэту» ў яго скідае. Толькі ў ЗША да «Інтэрнэту» падключаны рэдакцыі газет, вышэйшыя навучальныя ўстановы, бібліятэкі, прыватныя і дзяржаўныя фірмы, грамадскія і ўрадавыя (нават такія, як NASA) арганізацыі. Мільёны абанентаў «Інтэрнэту» ёсць і ў сотнях іншых краін свету, у тым ліку і ў нас.

Адной з арганізацый, якія спрыяюць пашырэнню гэтай сеткі кампутарнай сувязі, з'яўляецца міжнародны фонд «Еўразія», штаб-кватэра якога знаходзіцца ў Вашынгтоне, а прадстаўніцтва, агульнае для Беларусі, Малдовы і Украіны, — у Кіеве. Нягледзячы на аддаленасць, фонд актыўна дзейнічае і ў Беларусі, стала ажыццяўляючы тут фундатарскую дзейнасць. У канцы мінулага года фондам быў абвешчаны конкурс, прысвечаны развіццю электронных камунікацый, вынікі якога былі падведзены ў лютым гэтага года. На ўдзел у ім было пададзена 277 заявак з трох краін — Беларусі, Малдовы і Украіны. Фінансавую падтрымку мелі 24 з іх, у тым ліку і праект ТБМ, які называўся «Электронны фонд беларускай мовы і сетка лінгвістычнай інфармацыі ў Беларусі». На яго рэалізацыю Фондам было вылучана 15000 долараў ЗША.

Ідэя стварэння электроннага фонду беларускай мовы — не навіна. На Захадзе лінгвістычныя базы дадзеных пачалі ствараць яшчэ ў 70-х гадах, а ў 80-х — і ў рэспубліках СССР (за выключэннем БССР), дзе афіцыйнае мовазнаўства праігнаравала магчымасці кампутарнай тэхнікі). Таму мэтаю праекта, з якім звярнулася ў фонд «Еўразія» ТБМ, ёсць перавод багацейшых лексічных рэсурсаў сучаснай беларускай мовы (як літаратурнай, так і спецыяльнай ды дыялектнай) з усіх наяўных друкаваных і архіўных крыніц у сучасныя формы захавання — на электронныя носьбіты ў выглядзе лінгвістычнай базы дадзеных. Карыстальнікамі гэтай базы могуць стаць усе зацікаўленыя, як асобы — навукоўцы, выкладчыкі, навучэнцы школаў і ВНУ, — так і арганізацыі. І не толькі ў Беларусі, але і па ўсім свеце, бо магчымасць карыстання імі банкам дадзеных забяспечыць яго падключэнне да сусветнай сеткі кампутарнай сувязі «Інтэрнэт». Гэта — другая мэта праекта: выкарыстанне магчымасцяў кампутарнай сеткі дзеля камунікацыі паміж карыстальнікамі, уключанымі ў праект, доступу іх да сусветных банкаў навуковай інфармацыі, а таксама доступ да рэсурсаў створанага банка карыстальнікаў з-за мяжы.

Праект «Электронны фонд беларускай мовы» распрацаваны і будзе выконвацца дзвюма арганізацыямі — Таварыствам беларускай мовы і Тэрміналагічнай камісіяй пры Міністэрстве адукацыі, створанай загадам міністра В.Стражава з ініцыятывы Таварыства. ТБМ з'яўляецца юрыдычным прадстаўніком праекта — адказвае за яго рэалізацыю і выкарыстанне сродкаў фундатара. Тэрміналагічная камісія ажыццяўляе навуковае і арганізацыйнае забеспячэнне праекта і супрацоўніцтва з дзяржаўнымі структурамі. Агульнае навуковае кіраўніцтва праектам на ўсіх этапах будзе здзейснена. Навуковай радай, сфармаванай з прадстаўнікоў Тэрміналагічнай камісіі (філалагічны семінар, секцыі тэрміналогіі і інфарматыкі і вылічальнай тэхнікі) і кіраўніцтва ТБМ. Яе склад:

Генадзь Цыхун — дырэктар праекта, старшыня Камісіі, доктар філалагічных навук;
Аляксей Глушко — памочнік дырэктара праекта, вучоны сакратар Камісіі;
Алег Бабак — нам.старшыні секцыі інфарматыкі і вылічальнай тэхнікі, заг.сектара НДІ ЭВМ;
Міхаіл Буза — старшыня секцыі інфарматыкі і вылічальнай тэхнікі, доктар тэхнічных навук;
Вінцук Вячорка — нам.старшыні Камісіі, сябра Сакратарыята ТБМ;
Людміла Рычкова — дэкан факультэта замежных моў Гродзенскага універсітэта, кандыдат філалагічных навук;
Зміцер Санько — нам. старшыні ТБМ, галоўны рэдактар выдавецкай кампаніі «Тэхналогія», кандыдат біялагічных навук;
Тамара Суша — в.а.прафесара кафедры лексікалогіі Менскага лінгвістычнага універсітэта, кандыдат філалагічных навук.

Дзеля вырашэння канкрэтных тэхнічных задач (распрацоўкі праграмнага забеспячэння, наладжвання працы кампутарных сетак, правядзення адукацыйных мерапрыемстваў) да праекта будуць далучацца спецыялісты Вылічальнага цэнтра адукацыі і навукі ды персанал ведамаснай сеткі UNIBEL.

На заканчэнне публікуем спіс абаненцкіх пунктаў сеткі лінгвістычнай інфармацыі. На жаль, фундатарамі з яго выключаны дапаможныя пункты ў Інстытуце мовазнаўства АН Беларусі, у сядзібе Таварыства беларускай мовы, а таксама рэдакцыі газеты «Наша слова», што не можа не здзіўляць яе супрацоўнікаў.

**Уладзімір ПАНАДА.**

### Спіс пунктаў сеткі лінгвістычнай інфармацыі

**Галоўны пункт**

Менск, Тэрміналагічная камісія пры Міністэрстве адукацыі і навукі, вул. Рэвалюцыйная, 15; тэл. (0172) 20-51-57, Глушко, вучоны сакратар.

**Абаненцкія пункты**

Менск, Інстытут літаратуры імя Я.Купалы Акадэміі навук Беларусі, пр.Ф.Скарыны, 66; тэл. (0172) 39-57-20, Янушкевіч, навук. супр.

Менск, Інстытут мастацтвазнаўства, этнаграфіі і фальклору АН Беларусі, вул. Сурганава, 1а; тэл. (0172) 39-57-32, Салавей, навук.супр.

Менск, Беларускі дзяржаўны універсітэт, філалагічны фак-т, вул.К.Маркса, 31; тэл. (0172) 29-31-42, Красней, нам.дэкана.

Менск, Беларускі дзярж.педагагічны універсітэт, каф.бел.мовазнаўства, вул. Савецкая, 18; тэл. (0172) 68-79-27, Міхайлаў, загадчык.

Менск, Беларускі дзярж.лінгвістычны універсітэт, каф.лексікалогіі, вул. Захарава, 21; тэл. (0172) 32-15-19, Суша, в.а.загадчыка.

Менск, Беларускі універсітэт культуры, каф. бібліяграфіі і дакументазнаўства, вул. Рабкораўская, 17; тэл. (0172) 25-50-45, Лявончыкаў, загадчык.

Гродна, Гродзенскі дзяржаўны універсітэт, каф.мовазнаўства, вул. Ажэшка, 22; тэл. (0152) 44-26-51, Сцяцко, загадчык.

Віцебск, Віцебскі дзярж.пед.універсітэт, філалагічны фак-т, Маскоўскі пр., 33; тэл. (0212) 5-67-27, Вардамацкі, дэкан.

Наваполацк, Полацкі дзярж.універсітэт, каф. сацыяльна-гуманіт.навук, вул.Блахіна, 29, Грудніцкі, загадчык.

Магілёў, Магілёўскі дзярж.пед.інстытут, каф. методыкі выклад.матэматыкі, вул.Касманаўтаў, 1; (0222) 26-69-71, Латоцін, загадчык.

Горкі, Беларуская сельскагаспадарчая акадэмія, каф.бел.і рас. моў, (02233) 2-34-68, Зянькові, загадчыца.

Гомель, Гомельскі дзярж. універсітэт, каф. беларускай культуры, вул. Савецкая, 104, Паўлавец, загадчык.

Мазыр, Мазырскі дзярж. пед. інстытут, каф.бел.мовы, вул.Студэнцкая, 28; (02351) 2-21-24, Лісоўскі, дацэнт.

Брэст, Брэсцкі дзярж. пед.інстытут, бульв.Касманаўтаў, 21, Яцкевіч, прафесар.

Светлагорск, раённая арганізацыя ТБМ, Мікраён 2, 13-2; тэл. (02342) 2-02-04, Болбас, старшыня.

Ліда, гарадская арганізацыя ТБМ, вул.Кірава, 27; тэл. (01561) 24-48-16, Мельніч, старшыня.

Орша, раённая арганізацыя ТБМ, пр.Міру, 7-118; тэл. (02161) 2-45-42, Шутаў, старшыня.

*Дзеючыя асобы*

# «Бог заўсёды з добрымі і шчырымі»

***Напэўна мала хто ведае аб існаванні Беларускай Евангельскай Царквы, хаця яна існуе ўжо на працягу некалькіх гадоў. Каб крыху запоўніць гэты інфармацыйны прабел, прапануем увазе чытачоў размову з пастырам Эрнэстам Сабілам.***

**— Спадар Сабіла, колькі слоў, калі ласка, аб перадгісторыі стварэння вашай Царквы.**

— Пачатак беларускай Евангельскай Царквы быў пакладзены некаторымі прапаведнікамі, якія карысталіся ў сваёй дзейнасці беларускай моваю. Дакладней кажучы, яны не стварылі асобнай царквы, але рыхтавалі для гэтага ўмовы.

Я заўсёды прапаведваў па-беларуску, ва ўсіх евангельскіх цэрквах, у якіх працаваў. Сам я евангельскага вучэння, баптысцкага накірунку. Мы завёмся евангельскімі таму, што хочам жыць згодна з Евангеллем, а беларускімі таму, што гаворым казанні, спяваем, молімся па-беларуску. У ранейшыя часы не было магчымасці стварыць асобную Царкву, бо не было дастатковай колькасці беларускіх вернікаў-патрыётаў. Я быў пасвечаны на пастырскае служэнне ў Асіповічах. Пазней у Менску, калі знайшліся вернікі, мы вырашылі заснаваць Беларускую Евангельскую Царкву. Фактычна яна паўстала ў 1991 годзе, а афіцыйна зарэгістравана была толькі праз два гады. На жаль, аб нас бракуе інфармацыі, хаця мы некалькі разоў выступілі па радыё ды было некалькі артыкулаў у газетах. Людзі мала чулі аб нас, і гэта адна з прычын нешматлікасці нашай Царквы. Аб іншых канфесіях інфармацыі значна больш.

**— Адкуль Вы родам, хто Вашыя бацькі і як прыйшлі да Евангельскай Царквы?**

— Я нарадзіўся тут недалёка, так бы мовіць, можна адсюль убачыць гэтую вёску — Дзегцяроўку. Яна была невялікай, але потым утварылі калгас і некалькі суседніх вёсак знеслі, а жыхароў перасялілі ў Дзегцяроўку. Зараз на яе месцы стаіць Менская ЦЭЦ-4. Тата мой быў каталік, а маці праваслаўная. У хаце заўсёды былі мір і згода, ніякіх спрэчак. Мы жылі адносна нядрэнна, тата меў дзве дзесяціны зямлі. Гаспадарка была серадняцкая, але бальшавікі тату вельмі не любілі, і мы былі вымушаны, кінуўшы ўсё, пераехаць у Бабруйск, дзе нас і застала вайна. Там мы пазнаёміліся з Евангельскім вучэннем, і я адраджэнне ад Бога атрымаў яшчэ дзіцём. Мне было гадоў дзевяць, калі падчас вайны напаткала мяне бяда. І да мяне прыйшла думка: «Госпадзе, калі ты ёсць, нехай гэтая бяда мяне міне». І яна мінула. З гэтага часу шмат чаго сцёрлася ў памяці, а гэта карціна і зараз стаіць перада мной, як жывая. З таго часу не стаяла пытання, ёсць Бог ці няма. Толькі паслухмянасці перад Богам у мяне не было. А Бог на пытанні дзяцей і дарослых адказвае, ці ёсць Ён. Зараз усюды гавораць аб калдунах, аб розных багах. І калі б чалавек паставіў перад сабой пытанне, ці ёсць Бог, Ён бы адкрыў чалавеку вочы. Гэта мы ведаем з Божага слова. Я ж хадзіў раздвоенымі шляхамі. У час вайны было цяжка, мы ўсёй сям'ёй пайшлі ў партызаны. Пайсці аднаму чалавеку было нельга, бо пакаралі б усю сям'ю. Досыць часта на партызан рабіла налёты паліцыя, прыходзілася сустракацца ў твар са смерцю і адной абаронай быў Бог. Аднойчы я трапіў у рукі паліцыі. Была блакада і нас разганялі, атрад разбілі, ды Бог мяне абараніў. Я застаўся адзін у лесе і плакаў: «Госпадзе, вярні мне тату і маму». Я быў сярод лютых ваўкоў, якія прызвычаіліся есці чалавечыну. Калі партызаны забівалі паліцая ці наадварот. хто іх падбіраў? Ваўкі. Брыдучы па лесе, а патрапіў на паліцаяў. Яны запыталіся, ці веру я ў Бога. Я адказаў: «Так, дзядзечкі, веру». Яны бачылі, што гэта партызанскае дзіця. І ўсё ж нічыя рука не паднялася забіць мяне. Так Бог мяне выратаваў. Потым я трапіў у рукі іншай паліцыі — чырвонай. Я быў засуджаны за Слова Божае да расстрэлу, які потым замянілі на 25 гадоў лагераў. Адчуў увесь «смак» лагернага жыцця. Гітлераўцы так не здзекваліся, як здзекаваліся бальшавікі. І хаця я хадзіў раздвоенымі сцежкамі, Бог усё ж ратаваў мяне ад смерці і ў канцлагеры. Выйшаў я адтуль у 1964 г. і ўжо быў увесь час у малітвах, са свядомай евангельскай малітвай. Бог усюды мяне бараніў. І гэта былі жывыя доказы, я бачыў, што гэта не нейкія выпадковасці. Вельмі ж вялікая сістэма, каб лічыць гэта за выпадковасці.

У 1974 г. я прыняў хрост у Евангельскай Царкве. Я прыступіў да пастырскай дзейнасці ў Менску і адразу пачаў карыстацца беларускай моваю. Часам, праўда, прыходзілася казаць і па-расійску, але заўсёды казаў расійскія словы з такім беларускім вымаўленнем, каб адразу было бачна беларуса. Пасля была служба ў Асіповічах і стварэнне Беларускай Евангельскай Царквы. Так пры супраціве шатана і існуем. Спачатку мы збіраліся ў бібліятэцы імя Пушкіна, потым нас адтуль выдалілі, заявіўшы, што нібыта існуе нейкі закон, які забараняе правядзенне набажэнстваў у грамадскіх будынках. Я быў у выканкаме, і мне сказалі, што ніякага падобнага закона няма, проста існуюць людзі, якім упоперак горла стаіць усё беларускае. Іхняя задача — перашкодзіць нам любым чынам, і не выпадковасць, што неўзабаве пасля выслення нас з бібліятэкі, у Асіповічах згарэла нашая хатка. Хоць і гавораць: не злоўлены — не злодзей, але, тым не менш, здагадацца няцяжка, што і да чаго.

**— А што паслужыла прычынаю фарміравання Вашай менавіта нацыянальнай свядомасці?**

— Пасля выхаду з партызанаў я трапіў у Бабруйскую школу, дзе спаткаў цудоўнага чалавека і шчырага беларуса. Ён быў у гэтай школе дырэктарам. Усе дысцыпліны ў школе ён загадаў выкладаць толькі па-беларуску. І хаця быў моцны супраціў, гэта дало свой плён. Дырэктар быў чалавекам шчырага сэрца і моцнага духу. Злачынная сістэма такіх не цярпела, і ён урэшце быў звольнены з пасады. Ад рэпрэсій яго выратавала хіба што чыстая, па бальшавіцкіх мерках, біяграфія — партызан з самага пачатку вайны. Вось ён быў для мяне прыкладам у змаганні за беларушчыну. З таго часу ў мяне і зарадзіўся пратэст супраць самадурства камуністаў.

**— Раскажыце больш падрабязней пра лагеры перыяд Вашага жыцця.**

— Я заўсёды любіў сваю Радзіму, гэта і паслужыла падставай абвінавачвання мяне ў нацыяналізме. Мяне асудзілі па артыкуле 72 «Б» — антысавецкая агітацыя з выкарыстаннем рэлігійных і нацыянальных забабонаў. Калі па артыкуле 72 «А» (звычайная антысавецкая агітацыя) давалі 10 год, то па 72 «Б» суд вырашыў мяне расстраляць. На гэтай падставе і стралялі нашых пісьменнікаў, дзеячаў культуры. У лагеры я сустрэў людзей, погляды якіх супадалі з маімі, кожны з іх любіў сваю Радзіму. Мы гуртаваліся, і гэты дух патрыятызму і любові захоўваўся ў нашым яднанні. Праўда, сустракаліся і такія беларусы, якія ненавідзелі ўсё беларускае.

Я двойчы ўцякаў з лагера, ды не ўпотайкі, а пад агнём. Зрабіў драбіну і па ёй палез цераз плот. Але перш чым лезці, я схіліўся і пачаў маліцца. Калі вырашаецца пытанне жыць ці быць прастрэленым, заўсёды ўзгадваеш пра Бога. Я казаў: «Госпадзе, калі ўгодна Табе, зберажы маё жыццё, а калі не, прымі дух мой і не асудзі за грахі». І з гэтай малітвай палез на плот. За гэтай карцінай назірала шмат людзей. Лезу па драбіне (а я зрабіў яе тонкай, каб лягчэй было цягнуць), і яна пада мной раптам зламалася, толькі паспеў схапіцца за плот — і вішу. А начальнік канвою схапіўся за аўтамат; раз адводзіць затвор — асечка, другі, трэці — асечкі. Ён кідае аўтамат, гэта на вачах усіх зэкаў, хапае карабін і пачынае страляць, а я ўжо перакуліўся за плот. Я думаў — там хмызы, а там чыстае поле. Бягу па полі, а па мне страляюць прыцэльным агнём… Кулі свісцелі каля вуха і перада мной падымалі пясок. Потым, калі мяне злавілі і вялі, канвой быў з таго самага лагера і распавядаў, што мяне выцэльвау лепшы стралок дывізіі. Яны разважалі: «стралок ён то быў лепшы, але можа рука не паднялася». Выпадковасць? Перад выпадковасцю была малітва, і я ведаю, хто адвёў тую руку. Не паднялася рука паліцаяў, не паднялася бальшавіка. Так было са мной у часы і карычневых і чырвоных — рука Божая берагла мяне. Берагла ў 43-м і 51-м. Каб гэтыя словы дайшлі да людзей. Каб хоць адна душа задумалася, хто над намі ёсць.

**— А як складваліся Вашыя адносіны з іншымі пастырамі, бо беларускамоўны пастыр, на жаль, вялікая рэдкасць, ці не мелі Вы з-за свайго патрыятызму праблем з боку святароў?**

— Сустракаліся мне такія, якія супрацьдзейнічалі, былі такія, што ставіліся больш-менш лаяльна. Але, так бы мовіць, у пастырскім калектыве больш таких, якія нелаяльна ставіліся да ўжывання беларускай мовы, і калі адкрыта не супраціўляліся, то і ў кожным разе не выяўлялі зацікаўлення. Напрыклад, прыязджаю я ў Магілёў ці ў якое іншае месца, а яны мне не тое што загадваюць, а так: «Ну, брат Эрык, ты бы, можа, па-расійску пропаведзь сказаў». Вось такія хітрыкі. А я лічу, што казанне па-беларуску — Божая воля. У Слове Божым напісана, што «ўсякая мова праслáвіць Бога». Надыходзіць той час, калі гэта здзейсняецца. Мы не чакаем, што 100 ці няхай 90 працэнтаў набажэнстваў пяройдзе на беларускую мову, але ёсць ужо Беларуская Евангельская Царква, беларускамоўны Каталіцкі Касцёл, беларускія уніяты, а значыць, Бог славіцца па-беларуску. І праславіць Бог тых, хто выконвае Яго Слова!

**— Як на Вашую думку, у чым прычына негатыўнага стаўлення да беларускай мовы пэўнай часткі пастыраў?**

— У царкву людзі прыходзяць са свету. Прыходзяць такімі, якімі яны былі ў гэтым свеце, часам з тымі ж грахамі. Той, хто краў, думае, як бы што сцягнуць, што дрэнна ляжыць; блуднікі са сваімі грахамі і г.д. Многія неадроджаныя, нераскаяныя, а часам духоўна слабыя, яны не могуць супрацьстаяць сваім грахам. Але ёсць такі грэх, які не лічыцца грахом — палітычны, грэх здрады свайму народу, свайму бліжняму, бо мой бліжні — гэта бацькі, жонка, дзеці, родзічы — і ўрэшце нацыя. Гэтая здрада была прыкрыта фальшывым лозунгам «дружбы народаў». Ты можаш сябраваць, але не будзь здраднікам свайго народа. Расійцы нам так не супрацьдзейнічаюць, як мясцовыя здраднікі, яны страшней. Гэта страшныя людзі. І калі народ заражоны гэтым грахом, у ім не пакаяўся і ўваходзіць з ім у царкву, не лічачы гэта заганай, ці можа ён чакаць падтрымкі ў Бога? Яны вінавацяць нас у нацыяналізме, а сябе называюць інтэрнацыяналістамі, усё перавярнулі дагары нагамі. Гэта не яны прынеслі ў Царкву расійскі імперыялізм, не яны палітыканы, а мы, аказваецца. Толькі таму, што любім сваю Беларусь. Мы не ворагі расійцаў. Калі да нас прыйдзе чалавек і будзе казаць па-расійску, па-ўкраінску ці па-польску, мы будзем толькі рады, рады кожнаму брату. Мы хочам адно: каб і беларусам не затыкалі рот.

**— Ці маеце Вы стасункі з іншымі супольнасцямі падобнага накірунку?**

— Як я казаў, цалкам беларускіх цэркваў няма, але і ў іншых евангельскіх цэрквах ёсць людзі, якія любяць сваю Бацькаўшчыну, свой народ, і мы падтрымліваем з імі сувязь.

**— А магчыма аб'яднанне дробных хрысціянскіх Цэркваў у адну? Мне здаецца, тэалагічных асаблівых супярэчнасцяў паміж імі не існуе. Ёсць амбіцыі кіраўнікоў. Вы згодны?**

— Так. Што да Цэркваў евангельскага накірунку, то ёсць браты сярод пяцідзесятнікаў, якія быццам не супраць беларушчыны, нават часам гавораць слова па-беларуску. І нам трэба трымаць з імі сувязь, распаўсюджваць літаратуру. Мы нядаўна выдалі кнігу Ю.Рапецкага «Новае жыццё ў Хрысце», трэба яе разам распаўсюджваць. Мы будзем рабіць практычныя захады, каб пашыраць беларускасць сярод тых, хто ўжо да гэтага Богам падрыхтаваны, не навязваючы тым, хто яшчэ да яе не гатовы.

**— А якія ў Вас адносіны з Праваслаўнай Царквой і Каталіцкім Касцёлам абодвух абрадаў?**

— У свой час, калі я жыў яшчэ па вуліцы Заслаўскай, кожную першую сераду месяца мы збіраліся на экуменічную малітву за Беларусь. Тады яшчэ не было беларускіх каталіцкіх святароў, праваслаўныя ўвогуле моляцца толькі па-стараславянску, не было ў той час і уніятаў. Я выступаў на пасяджэннях Біблійнага таварыства, заклікаў разам збірацца на экуменічную малітву, прапанаваў гэта неяк праваслаўнаму айцу Латушку. А ён мне ў адказ: «Вы ерэтыкі, бо не прызнаеце Маці Божай, з вамі нельга маліцца». Мне здаецца такое звычайнай пыхай. Але ж напісана: пыхлівым людзям Бог працівіцца. З каталікамі адносіны іншыя. Каталіцкая моладзь прыходзіла да нас на набажэнствы. Яны ставяцца лаяльна, па-сяброўску, па-хрысціянску. Таксама добрыя адносіны і з грэка-каталіцкім духавенствам. Такія, якія і мусяць быць паміж хрысціянамі. Прыходзілі да мяне праваслаўныя айцец Гардун і Алег Бембель — людзі, якіх я паважаю. Прапанаваў ім памаліцца за Беларусь, дык айцец Гардун адказаў мне практычна тое самае, што і айцец Латушка. Прыкра. Няма, на жаль, у нас з праваслаўнымі святарамі брацкага духу. Калі я сядзеў у мардоўскім лагеры, там у асноўным былі людзі веруючыя, дык хто хадзіў у Духу Божым, той добра ставіўся да ўсіх хрысціян, а хто не, то як збяруцца, то ледзь дах не падымаецца ад іх гвалту. Даказваюць адзін аднаму — хто з іх лепшы хрысціянін, хто мае рацыю, а хто не. Мы ставімся да ўсіх канфесій без асуджэння, хаця многіх рэчаў не падзяляем.

**— Якіх, напрыклад?**

— Мы, як евангельскія хрысціяне, падпарадкоўваемся Слову Божаму і ніякіх дадаткаў не робім. Майсею было сказана: «Бачыш, ты нічога не бачыш. Ніякага твару, ніякай выявы. Глядзі і запомні, каб пазней не рабіў ты ніякай выявы ні ў выглядзе чалавека, ні ў выглядзе жывёлы». Гэта было катэгарычна забаронена. І калі я бачу Бога Айца Усемагутнага, які стварыў неабсяжны сусвет, у выглядзе сівенькага, старэнькага дзядочка, на маю думку, — гэта блюзнерства. І мы не ўспрымаем, што гэтай выяве людзі пакланяюцца. Альбо праваслаўныя спачатку жагналіся двума пальцамі, потым пачалі трыма, а каталікі пяццю. Дзе аб гэтым напісана? Чаму б не жагнацца аднолькава? І з-за гэтага існуе варожасць між канфесіямі! Гэта не ад Бога. Не прымаем малітвы да святых. Хрыстос даў адзін узор малітвы «Ойча наш, які ёсць у нябёсах»… Мы шануем Марыю, але не сказана — Марыя наша, ці Дзева Марыя. Хрыстос так не казаў і апосталы не казалі, гэта пазней прыдумалі людзі. Ёсць яшчэ і іншыя адрозненні.

**— Спадар Сабіла, раскажыце аб місійнай дзейнасці вашай царквы, якім чынам пашыраеце кола сваіх вернікаў?**

— Мы занадта бедныя, каб спадзявацца на радыёвяшчанне альбо на распаўсюджванне літаратуры. Але, безумоўна, нам трэба прасіць у Бога Духа смеласці. Трэба ісці ў месцы, дзе збіраюцца шчырыя беларусы, і пры нагодзе казаць аб сабе. Пакуль мы такой смеласці не маем і ёсць ад чаго вызваляцца. Я таксама раблю шмат таго, чаго не трэба было б рабіць. У Асіповічах была будоўля. А тут, здавалася б, духоўныя клопаты, але, дакладней сказаць, калядухоўныя. Нам трэба ісці прапаведваць, бо час кароткі. Ну, а тое, што наша кола малое — што ж зробіш, нехай казанне будзе і па-расійску, каб толькі людзі ішлі да Бога. А мы ўжо будзем працаваць з тымі, хто прыхільны да беларускай мовы. Ну, а той, каго Бог мае ў сваім провідзе, знойдзе нашу царкву.

**Распытваў Альгерд НЕВЯРОЎСКІ.**

*Да 75-годдзя Таварыства беларускай школы*

# Хроніка ТБШ

Наша гісторыя, і не толькі сівая мінуўшчына, а і ўчарашні дзень сведчыць, што ў беларускага народа вялікі запас трываласці. Прыклад таму — той жа нацыянальна-вызваленчы рух у межах II Рэчы Паспалітай, якім было ахоплена трохмільённае насельніцтва Заходняй Беларусі, што гаварыла на адной мове, бачыла перад сабой адну мэту, змагалася з адным і тым жа ворагам — польскім асімілятарам. У «Хроніцы ТБШ» мы знойдзем дастаткова прыкладаў самаахвярнага патрыятызму і ўпартай барацьбы прадстаўнікоў народа за свае грамадзянскія і чалавечыя правы.

У той час беларускі народ быў свядомы і відушчы як ніколі, быццам не ляжалі за яго плячыма стагоддзі паняволення і залежнасці ад «старэйшых братоў». Каменціруючы пісьмо ў Галоўную Управу ТБШ сялян вёскі Заполле, «Летапіс» пісаў: «Ёсць асобы, якія цвердзяць, што беларусы быццам хочуць, каб іхніх дзяцей вучылі толькі па-польску, што беларусы не маюць народнае свядомасці. Між тым, калі ўважна прыслухацца да голасу вёскі, то адтуль, як з нейкага падзямелля, нясецца да культурнага свету адзіны вокліч: «Ратуйце!»

## 1933

**Ліст сялян вёскі Кожава да міністра асветы:** «Мінае ўжо 12 гадоў з таго часу, ад каторага існуе ў нас польская школа. Дванацаць гадоў, як абавязвае нас прымусовая навука, і што-ж мы бачым? Нашыя дзеці, прахадзіўшы 7 гадоў у гэтую школу, застаюцца няўмекамі. Ні воднае з іх ня можа чытаць і пісаць ні па польску ні па беларуску. Гледзячы на наша падрастаючае маладое пакаленьне проста бярэ жах. Кожны з нас балеець душой за будучыню гэтага пакаленьня, якое расьце ў поўнай цемры. Кніжка для нашай моладзі, якая прайшла польскую школу, ёсьць незразумелай, у якой-бы мове ні была яна напісана, бо, як зазначана вышэй, ніхто з малых людзей ня ўмее яе чытаць. Ня раз чытаем у польскай афіцыяльнай прэсе аб тым, што Польшча паставіла сабе за заданне зьнішчыць няграматнасьць цалкам. Аднак у нас робіцца наадварот, няграматнасьць не выкараняецца, а пашыраецца. Прычына гэтаму ёсьць адна: насельніцтва нашай вёскі беларускае, а школа польская. Дзеці нашы, не разумеючы польскай мовы, ня могуць навучыцца граматы ў чужой школе і ў чужой мове.

Ведаючы, што школа ў чужой мове ня можа навучыць граматы нашых дзяцей, мы ўжо ў 1927 годзе зляжылі на падставе існуючых законаў 40 дэкляраціяў на 60 з лішнім дзяцей з дамаганьнем Беларускае Школы, аднак п.Куратар Віленскае Школьнае Акругі прызнаў чамусьці важнымі дэклярацыі толькі на 27 дзяцей, а рэшту, не падаўшы ніякіх прычын, уняважніў. Дзеля гэтага ў нас засталася зноў польская школа. На гэтую пастанову п.Куратара мы зляжылі скаргу ў Міністэрства Веравызнаньняў і Публічнае Асьветы, аднак і па сённяшні дзень ніякага адказу не атрымалі.

Не дабіўшысь школы ў роднай мове, хаця на гэта мы маем законныя правы, а таксама бачачы як наша моладзь дэмаралізуецца, у пачатку бягучага школьнага году, дзеля пашырэньня асьветы сярод дарослых, заснаваўся быў у нашай вёсцы культурна-асьветны гурток Т-ва Беларускае Школы; аднак гурток гэты скора быў зьліквідаваны, а на сябраў яго пасыпаліся адміністрацыйныя кары пад усякімі відамі «za nieprzestzeganie przepisów sanitarnych» і г.д. Але ўсе гэтыя «przepisy» былі стасаваны выключна толькі да сябраў званага Т-ва і больш нікога не датычылі.

Дзеля ўсяго вышэй пералічанага просім Пана Міністра:

Адчыніць у нашай вёсцы замест школы польскай, школу беларускую, на якую мы маем законныя правы. Даць нам магчымасьць вясьці культурна-асьветную працу сярод дарослых і даць нам магчымасьць зарганізаваць гурток Т-ва Беларускае Школы».

Кожава, дня 16-VII 1933 г.

**Суд над сябрамі ТБШ.** У днях 1—4 лютага г.г. адбыўся ў Акружным судзе працэс над прэзыдыюмам ТБШ у асобах старшыні Ф.Стэцкевіча, віцэ-старшыні М.Пяткевіча і сэкратара Г.Шырмы, сябрай Нагляднай Рады Ю.Саковічам, сябрай Дачаснай Паўнамоцнай Камісіі Церахам і грам. С.Скуркай, які не зьяўляецца сябрам Т-ва. Усіх пералічаных абвінавачвалі ў стварэньні на грунце ТБШ камуністычнай змовы з арт. 102, ч. 1 Карнага Кодэксу. Усіх трох сябраў прэзыдыюма Галоўнае Управы Суд апраўдаў, Цераха і Саковіча засудзіў на 3 гады турмы кожнага, а Скурку на 2 гады.

**Улезлаўскі гурток.** Першы раз мы прасілі дазволу ў пана Старасты на спэктакль ў стадолі, — было адмоўлена з прычыны пажарнае небяспекі. Тады мы — сабралі з вёскі радзюжак, дываноў і палатна, далажылі свае працы, зрабілі аснову будыніны, з бакоў абабілі простымі радзюжкамі, зьверху пакрылі палатном, якое кабеты нашае вёскі прынеслі нам вельмі ахвотна. 3 сярэдзіны убралі прыгожымі дыванамі і ўквецілі вянкамі з дзеразы, якія былі сплецяны нашымі сяброўкамі. Ладзіць спэктакль ў гэтым будынку нам было дазволена. Публікі сабралася поўна. Усім — і глядзельнікам і артыстам — вельмі спадабалася наша шчырая праца. Наш прыгожы будынак і Ельцаўская трупа ўзапраўды стварылі сьвяточны настрой у нашай вёсцы.

## 1936

**Вечар беларускай паэзіі і песні.** 15 сакавіка ў залі Віленскага Ун-ту Беларускі Студэнцкі Саюз і Т-ва прыяцеляў Беларускаведы ладзяць вечар беларускай паэзіі і песні. У праграме вечару: даклад «Аб маладой беларускай паэзіі», дэклямацыя і аўтодэклямацыя твораў Арсеньневай, Бярозкі, Васілька, Ільяшэвіча, Машары і Танка. На заканчэньне салёвыя сьпевы і канцэрт хору Р.Шырмы.



Арганізатары вечара беларускай паэзіі і песні. Злева направа сядзяць: **С.Станкевіч, М.Машара, Р.Шырма, М.Васілёк, М.Шчорс**; стаяць; **Хв.Ільяшэвіч, М.Танк, Бярозка, В.Тумаш, П.Сергіевіч.** 15 сакавіка 1933 г.

**Сьвіслацкі гурток** Ваўкавыскага павету зачынены на пачатку верасьня 1935 г. «за бяздзейнасьць». Гэта быў апошні гурток у Ваўкавышчыне, які яшчэ працаваў, калі ня меў перашкодаў, інтэнсіўна: ладзіліся спэктаклі і канцэрты. Праўда, апошні спэктакль мінулым летам быў забаронены Ваўкавыскім Старастай, але затое увесь час бойка функцыянавала бібліятэка гуртка, якая налічвала болей 1000 томаў кніг і некалькі сот сталых абанэнтаў. Уважаючы матывы Ваўкавыскага Старасты за няслушныя, Галоўная Управа паслала скаргу Беластоцкаму Ваяводзе дня 14.IX.1935 г. Адказу на сваю скаргу да гэтага часу ня мае.

**Палесьсе.** Слабая нацыянальная сьведамасць Паляшукоў паддае ахвоты розным асымілятарам для розных спробаў. Тут доўгія гады астаткі расійскіх эмігрантаў пад фірмай Р.Н.О. прабавалі ператварыць паляшукоў на расейцаў, у сваю апору. Існавала купа расейскіх школаў і 3 гімназіі — у Лунінцы, Пінску і Берасьці, з каторых Берасьцейская існуе і дагэтуль. Цікава, што ў гэтай асымілятарскай акцыі чынна дапамагалі Р.Н.О. і Пэпээсы (Польская партыя сацыялістычная. — Рэд.) са сваім, так званым, «Палесским Окружным Комитетом» у Пінску, выдаючы ўсе свае адозвы і газэту «Красное Знамя» у Лунінцы парасейску. Потым зьвярнулі ўвагу на паляшукоў польскія асымілятары. Пад час розных выбарных акцыяў выдаюцца адозвы ў «поліскім языку». Тут зноў на помач асымілятарам сьпяшаць ППС, выдаючы адозвы на калене склепленым палескім языку. На вёсках польскія арганізацыі ўводзяць на прэдстаўленьнях п'есы на «палескім языку», перароблены з беларускага, украінскага і польскага. Нарэшце ўводзіцца «палеская» нацыянальнасьць. Пад час запісваньня ў установах і ўрадах пішацца нацыянальнасьць «poleska», або яшчэ лепей, як у косаўшчыне на прыёмачнай камісіі, — «polsko-poleska». У Берасьці выдаецца польскі тыднёвік «Polesie», які мусяць выпісваць кожны солтыс і гміна. Тыднёвік прыводзіць думку, што паляшук не беларус і не украінец, а паляк. «Poleszucky — szczep polski» трошкі абрушчаны, дадае там ад сябе нейкі горапрафэсар і «знаўца» Палесься Р.Горошкевіч.

Разам з гэтым зачынены ўсе беларускія і украінскія культурна-асветныя арганізацыі, як ТБШ, Просьвіта. Не ўдзелена канцэсіі ўкраінцам на Гімназію ў Берасьці, а беларусам у 1929 годзе ў Пінску (хацелі пераняць былую расійскую Гімназію). Адчыненыя ў 1928 годзе на падставе зложаных школьных дэкляраціяў каля дваццаці утраквістычных і беларускіх школ (Косаўшчына, Пружаншчына і Піншчына) ужо ўсе ліквідаваны. Робіцца спробы ізаляваць беларускае Палесьсе ад сваіх нацыянальна-адраджэнскіх асяродкаў.

Да Паважанай Галоўнай Управы ТБШ у Вільні.

Мы сяляне вёскі Запольле цяпер жывём у разладзьдзі. Хаця народ адны Беларусы, але свайго нічога ня маем: ані кніжак, ані газэт, нават у школах у нас няма ні аднэй лекцыі беларускага, якіх і дзеці нашы нават дамагаюцца, але настаўнікі не даюць, кажучы, што няма беларускіх падручнікаў. Праўда, мы іх знайсьці ня можам. А гэта дзеля таго, што ня маем свае арганізацыі, а чужой ня прымаем, хаця і настаюць прымусова. Шкада, нават і моцна шкада таго часу, калі ў нас існавала ТБШ. Тады мы мелі у школе большасьць прадметаў у сваёй мове, бо мелі нават сваю бібліятэку, хор, аркестру, ладзілі прадстаўленьні, дзякуючы чаму нашае ТБШ с кождым днём расло і багацела.

Пры завешаньні ТБШ усё ад нас забралі і ўсё зьнікла. А цяпер дачуваемся, што ТБШ па другіх бакох працуе. Нам гэта вестка, як прамень сонца у канцы цёмнае ночы.

Па гэтаму і мы моцна і доўга дамагаемся адкрыцьця свайго ТБШ, хочам дастаць назад свае скарбы, каторыя без дай рацыі марнуюцца, але ня можам самі дабіцца.

Так што у помач завём с просьбай Галоўную Управу, як сваіх гаспадароў і кіраўнікоў аб вызваленьні ТБШ у Запольлі.

Чакаем сьпешнае помачы.

З пашанай былое ТБШ. Запольле. 13.1.1936 году

# Эстонская ластаўка

Уладзімер Дзехцярук

СЯРОД БЕЛЫХ ЭСТОНСКІХ НАЧЭЙ

Згуртаваньне Беларускай Культуры "БЭЗ"

У невялічкім эстонскім мястэчкуКівілі, што на ўзбярэжжы Балтыкі, жыве, працуе і піша вершы Уладзімір Дзехцярук. Ураджэнец вёскі Повіць Кобрынскага раёна Берасцейшчыны, ён па сканчэнні інстытута быў скіраваны працаваць у Эстонію, дзе і застаўся жыць. Цяпер Уладзімір працуе інжынерам-чыгуначнікам у Іда-Вірумааскім павеце Эстоніі. Ягонае імя вядома ў асяроддзі і мясцовых турыстаў, і калекцыянераў, і аматараў паэзіі, але найбольш тым, каго аб'яднала Згуртаванне беларускай культуры ў Іда-Вірумаа.

Прыехаўшы ў Эстонію зусім маладым, Уладзімір Дзехцярук палюбіў гэты край, які зрабіўся ягонай новай радзімай. Але паэт захаваў памяць і пра сваю першую радзіму — Беларусь, стварыўшы Беларуска-эстонскае згуртаванне — «БЭЗ», сябры якога нават далёка ад дому захоўваюць сваю мову і культуру.

Эстонія вачыма беларуса і Беларусь, бачная здалёку. Гэтыя тэмы часта сустракаюцца ў вершах паэта, напісаных у час шматлікіх яго вандровак, у якіх, як піша ўкладальнік кнігі паэзіі і прозы У.Дзехцярука М.Астраўмава, «мастакоўскае вока жывыя ўражанні простага і звычайнага перакладае на палітру яркга і вобразна».

Гэтая кніга — «Сярод белых эстонскіх начэй» — выйшла ў 1995 годзе ў талінскім выдавецтве «INGRI» дзякуючы намаганням суполкі «БЭЗ» і грашовай падтрымцы прыватных фундатараў — эстонцаў, якія дапамаглі выдаць кнігу, напісаную незнаёмай ім мовай — беларускай.

«Яго лёс — гэта лёс соцень і тысячаў суайчыннікаў, якія апынуліся па-за межамі Радзімы і не здрадзілі ёй...», — гаворыцца ў прадмове да зборніка пра яго аўтара. А якім будзе лёс гэтай кнігі — пакажа час.

У.П.

*У суседзяў*

# Да Масквы Бог бліжэй?

Агенцтва Інтэрфакс распаўсюдзіла паведамленне аб вялікай незадаволенасці ўладароў Расіі тым, што Эстонская апостальская праваслаўная царква вырашыла перайсці з-пад рукі Масквы пад юрысдыкцыю Канстанцінопальскага патрыярхата. Урэшце кіраўнік аддзела знешніх царкоўных сувязей Маскоўскага патрыярхата Мітрапаліт Кірыл склікаў прэс-канферэнцыю, на якой абвясціў, што «маскоўскае праваслаўе гатовае весці перамовы з Канстанцінопальскім патрыярхатам, каб уладкаваць сітуацыю ў Эстоніі, гатовае ісці на кампраміс, калі яны не будуць парушаць кананічнага заканадаўства». Хаця, здавалася б, што тут такога: ну, вырашылі ў Эстоніі вярнуцца пад крыло Канстанцінопальскага патрыярхата, адкуль і ўсчалася некалі праваслаўная царква, але не. Да Масквы Бог, выходзіць, бліжэй ці тут перамагаюць не нябесныя і зямныя інтарэсы?

У.А.

